Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 19 (71) | Вільня, 20-га ліпня 1935 г. | Год 3-ці.

## Новыя выбары.

У папярэднім нумары Роднага Краю мы ўжо адзначалі, што паводле новае канстытуцыі ды згодна з нова прынятым законам аб парадку выбараў апошнія значна будуць розьніцца ад даўнейшых. Розьніца, зразумела, будзе ня толькі па форме, але, так сказаць, і па зьместу, бо-ж склад будучага Сойму і Сэнату зусім ня будзе падобны да тых, якія былі дагэтуль.

Раней маглі выстаўляць кандыдатаў у Сойм ды Сэнат ня толькі палітычныя партыі ды грамадзкія арганізацыі, але і паасобныя невялічкія групы людзей, якія маглі тым ці іншым шляхам сабраць пад сваім кандыдатам 50 подпісаў.

Па новаму выбарнаму закону палітычныя партыі і грамадзкія арганізацыі, можна сказаць, зусім пазбаўлены права выстаўляць сваіх кандыдатаў, бо-ж для іх, як і для кожнай ініцыатыўнай групы, застаецца толькі адзіны шлях— **шлях здабыцьця 500 натар'яльна пасьведчаных подпісаў** для таго, каб мець права паслаць 1 свайго прадстаўніка ў акружное прадвыбарнае сабраньне.

З гэтага бачым, што палітычна-грамадзкія арганізацыі пазбаўлены амаль што зусім права на выстаўленьне сваіх кандыдатаў. У асаблівасьці-ж закон гэны зьяўляецца крыўдным для беларусаў наагул, а тым балей для беларускае вёскі. Калі беларусам трудна, а часта і немагчыма, было пасьведчыць у валасьці 30-40 подпісаў на школьнай дэкларацыі, бо часта войты ці то зусім адмаўляліся сьведчыць ці ставілі такія перашкоды, што нельга было іх перамагчы, дык што-ж тут гаварыць аб **500 нотар'яльна пасьведчаных подпісах?!** Гэта роўназначна з правам на палёт пры абрэзаных крыльлях.

Разгледзім цяпер бліжэй іншыя рэальныя магчымасьці, з якіх маглі-бы скарыстаць беларусы,не кажу ўжо аб выстаўленьні свайго кандыдата ў паслы ці сэнатары, але хоць-бы паслаць свайго прадстаўніка ў прадвыбарнае сабраньне.

Здаецца, што і тут справа будзе прадстаўляцца ня лепш, бо-ж ад розных прафэсыянальных палатаў, ці як іх завуць „ізбаў", ня толькі беларускаму сялянству, але нават наагул беларусам паслаць сваіх прадстаўнікоў немагчыма. Застаецца такім чынам толькі шлях праз валасныя самаўрады. Тэорэтычна гэта, здавалася-б, шлях зусім магчымы і рэальны, але практычна, як пабачым, і ён даець вельмі і вельмі мала.

Для таго, каб можна было паслаць свайго прадстаўніка ад таго ці іншага валаснога самаўраду, трэба там мець большасьць. Калі-ж прыпомнім сабе спосаб і вынікі праводжаньня апошніх выбараў у валасныя самаўрады, то прыйдзем да перакананьня, што беларусы, як гэта ня дзіўна, і там ня маюць свае большасьці. У той час, як насельніцтва валасьці ў большасьці прыпадкаў зьяўляецца ў 95%-100% беларускім, у сёньняшніх складах валасных самаўрадаў часта беларусаў зусім ня маем—у іншых трапіла туды вельмі нязначная частка, а то і проста паасобныя адзінкі.

Ці такі склад выяўляе сапраўдную волю і настрой насельніцтва дадзенае валасьці, — гаварыць ня прыходзіцца.

Зразумела, што пры такім стане рэчаў беларусы практычна зусім будуць пазбаўлены магчымасьці выявіць сваю волю і свае жаданьні.

А чаму так сталася, чаму ў валасных самаўрадах з 100% беларускім насельніцтвам часта няма ніводнага беларуса—няхай адкажуць тыя, якія рабілі валасныя выбары. Мы аб гэтым у свой час пісалі.

Такім чынам можа стацца, што 2-х мільённая маса беларусаў ня будзе мець свайго сапраўднага прадстаўніцтва ані ў Сойме ані ў Сэнаце — як урэшце гэта і было ў апошнім Сойме — бо-ж ані Шыманоўскіх, ані Седуноў і іншых беларусы не маглі ды і ня могуць уважаць за прадстаўнікоў сваіх інтарэсаў, імкненьняў і жаданьняў. Між тым, як пры справядлівым пропорцыянальным падзеле беларусы павінны-б мець калі ўжо не 15-ую, дык хоць 30-тую (паводле польскай урадовай статыстыкі) частку так званага парлямэнтарнага прадстаўніцтва; г. зн. у Польскім Сойме павінна быць найменш беларусаў—7, а ў Сэнаце—3

Магчыма, што некаторыя кіраўнікі сучаснай палітыкі будуць здаволены з такога стану рэчаў, што 2-х мільённая маса насельніцтва ня зможа падаць свайго голасу і дзеля гэтага«крэсовыя» урапатрыёты могуць хваліцца, што на «шыпке ўсё спакойна», але ці так стан рэчаў карысны для самае Дзяржавы, сказаць не бярэмся. Пажывём—пабачым.

## Хто і як выбірае ў Сэнат.

Сэнат поводле новага закону складаецца з 96 сэнатараў. Трэцюю частку гэнае лічбы, або 32 сэнатараў назначае Прэзыдэнт Польшчы, а дзьве трэція, або 64 сэнатараў выбіраюць выбарныя ваяводзкія калегіі, якія складаюцца з дэлегатаў, выбраных грамадзянамі Дзяржавы, маючымі права выбараў у Сэнат.

Права выбараў у Сэнат маюць:

*За асабістыя заслугі* — грамадзяне, адзначаныя ордэнам Белага Арла, ордэнам Virtuti Militari, Крыжам або Мядалем Незалежнасьці, Крыжам Баявых, ордэнам Адраджэньня Польшчы або Крыжам Заслугі;

*дзякуючы асьвеце* — а) грамадзяне, якія кончылі вышэйшую школу, або прафэсыянальную школу тыпу ліцэю (пэдагагічныя ліцэі, пэдагогіі), або ахвіцэрскую школу ці школу падхарунжых; б) грамадзяне, якія кончылі адну са школаў, роўную з вышэйпаказанымі або маюдь ахвіцэрскі чын;

*дзякуючы даверv грамадзян* — а) грамадзяне, займаючыя выбарнае становішча ў тэрыторыяльных самаўрадах, а іменна: сябры радаў ваяводзкіх, павятовых, гмінных і гарадзкіх, а таксама сябры гарадзкіх управаў; б) грамадзяне, займаючыя выбарнае становішча ў гаспадарчым самаўрадзе, а таксама ўва ўправах гаспадарчых арганізацыяў, зьвязаных з гэным самаўрадам, а іменна: дарадчыкі ізбаў ральнічых, гандлёва-прамысловых і рамясьнічых, старшыні прамысловых арганізацыяў, цэхаў, рамясьнічых гаспадарскіх саюзаў, а таксама арганізацыяў і колаў ральнічых; в) старшыні ўправаў работніцкіх прафэсыянальных саюзаў; г) старшыні мясцовых колаў арганізацыяў вышэйшай карысьці; д) сябры ўправаў вышэйшай ступені, пераліч аных вышэй арганізацыяў.

Выбарнага права ня маюць тыя грамадзяне, якім ня кончылася 30 гадоў.

*Выбраным у Сэнат можа быць і той грамадзянін, які мае выбарнае права ў Сойм і якому кончылася 40 гадоў перад днём распараджэньня аб выбарах.*

Кандыдатам можна быць толькі ў адным ваяводзтве.

Кожны павет дзеліцца на выбарныя абводы, у якіх ёсьць ад 120 да 150 выбаршчыкаў у Сэнат. Кожны такі абвод выбірае аднаго дэлегата да выбарнай ваяводзкай калегіі.

Дэлегаты зьбіраюцца на сабраньне ў наступную нядзелю пасьля дня галасаваньня ў Сойм.

Выбарныя ваяводзкія калегіі ўкладаюць сьпіскі кандыдатаў у Сэнат і потым галасаваньнем выбіраюць сэнатараў. Кожны дэлегат мае права галасаваць за столькіх кандыдатаў, колькі сэнатараў выбіраецца ад дадзенага ваяводзтва.

У працягу сямёх дзён ад абвешчаньня выніку выбараў у Сэнат Прэзыдэнт Польшчы назначыць іншых 32 сэнатараў.

## Як будзе выбірацца Прэзыдэнт Польшчы

Кандыдата на Прэзыдэнта Польшчы выбірае Сабраньне выбарных. У склад гэтага Сабраньня ўваходзяць: маршалак Сэнату, маршалак Сойму, старшыня Рады Міністраў, першы старшыня Найвышэйшага Суду, гэнеральны інспэктар войска і 75 выбарных з пасярод найдастайнейшых грамадзян. 50 гэных выбарных выбірае Сойм, а 25 Сэнат.

За выбранага Прэзыдэнтам уважаецца той кандыдат, які атрымаў большасьць галасоў. Калі ніводзін з кандыдатаў не атрымае адразу большасьці, тады адбываецца новае галасаваньне, пры чым кандыдаты, атрымаўшыя найменшую колькасьць галасоў,вылучаюцца з кандыдацкага сьпіску.

Калі ўступаючы Прэзыдэнт перашле старшыні Рады Міністраў заяву, што не намераваецца вызначаць з свайго боку кандыдата на Прэзыдэнта Польшчы, то Прэзыдэнтам Польшчы застаецца кандыдат, якога выбрала Сабраньне выбарных.

Калі-ж уступаючы Прэзыдэнт Польшчы вызначыць кандыдата з свайго боку, тады адбываецца народнае галасаваньне, якое выбірае Прэзыдэнта з двух кандыдатаў: аднаго, выбранага Сабраньнем выбарных і другога,вызначанага ўступаючым Прэзыдэнтам Польшчы.

У галасаваньні прыймаюць учасьце ўсе грамадзяне (кі), якім кончылася 24 гады і якія маюць выбарнае права ў Сойм.

Кандыдаты на Прэзыдэнта Польшчы ў выбарным пэрыядзе знаходзяцца пад аховам права, якое прыслугоўвае Прэзыдэнту Польшчы.

## Паўстанчы тэрор у Савецкай Беларусі

У адным толькі нумары (142-м) менскае газэты „Зьвязда" знаходзім весткі пра некалькі выпадкаў крывавых паўстанчых выступленьняў проці бальшавіцкае ўлады на тэрыторыі БССР.

Як піша гэтая газэта, у Віцебскім раёне зьліквідована „банда", якая з кастрычніка мінулага году да ліпня сёлетняга году зрабіла цэлы рад збройных нападаў на савецкія установы. Паміж іншым, гэтая „банда" зрабавала летась у кастрычніку краму машчанскага коопэратыву у Віцебскім раёне, забіўшы пры гэтым стоража крамы Гапеева. Сёлета ў сакавіку тая самая „банда" зрабавала краму сяльпецкага сельскага коопэратыву, забіўшы стоража Шапуру.

Партызанскі рух заўважваецца таксама і ў іншых месцах. Гэтак, у вёсцы Барысковічах, мазырскага раёну, паміж мясцовым калгасам ды сялянамі — *адзіналічнікамі* Рыгорам ды Міронам Кабзарамі і Максімам Шобай дауно ішла барацьба Сяляне гэтыя, лічыўшыя, што калгас захапіў іхнае пасьбішча, пушчалі на яго свае коні, а сустрэўшы спраціўленьне з боку сябра калгасу Івана Шобы, сьмяротна ранілі яго сякерай.

Спроба затрымаць забойцаў, як піша „Зьвязда", не ўдалася — „яны схаваліся ў лясох".

У самым Віцебску знойдзены быў труп камуніста Агнішчанкі —

## Выбары у Сойм — 8-га верасьня

15-га ліпня с. г. Прэзыдэнт Польшчы выдаў распараджэньне аб выбарах у Сойм і Сэнат. На аснове гэнага распараджэньня галасаваньне ў Сойм адбудзецца 8-га верасьня, выбары ў Сэнат — 15-га верасьня с. г.

## „Сьвята конституцыі“.

Пад гэткім загалоўкам надрукована ў № 192 варшаўскае „Gazety Polskiej“ корэспондэнцыя заўсёды добра паінфармованага ў савецкіх справах п. Отмара—маскоўскага корэспондэнта вышэйназванае газэты.

— 6 ліпня,—піша п. Отмар,—хіба што першы раз у агульнай гісторыі, адбывалася сьвята конституцыі.. якая знаходзіцца in statu revizionis (у стане рэвізіі). Бо якраз у гэтым стане ёсьць „аснаўны закон“ Савецкага Саюзу, пачаўшы з першых дзён лютага сёлетняга году, калі ўсяўладнае палітбюро кіраўнічае партыі выступіла на VII зьезьдзе саветаў з прапазыцыяй аб дэмакратызацыі гэтага закону.

Справа гэтая бітых паўгода „спала каменным сном“. Відочна ў той час, як парадачны рад (пераважна францускіх) „інтэлектуальных дурняў“ з Захаду сьвята паверыў, што СССР зьяўляецца ледзь не оазісам дэмакратыі і грамадзкіх свабодаў у „сфашызованай“... Эўропе, а савецкая прэса ўжо шэсьць месяцаў бароніць „астаткі парлямэнтарызму“ на Захадзе з старанлівасьцю, якая магла-б быць зразумелаю хутчэй у „керэншчыкаў“, — відочна ніхто справы *рэалізацыі* зьездаўскіх абяцанак ня лічыў палючаю—паколькі самыя абяцанкі ў поўнай меры дасягнулі прапагандовых мэтаў, аб якія хадзіла кіраўніцтву тутэйшага (маскоўскага—Рэд.) рэжыму.

Дзеля гэтага вось працы, пакліканай да жыцьця VII зьездам саветаў, конституцыйнай камісіі ня маюць нічога супольнага з „ударным тэмпам“.

І толькі „сьвята конституцыі“ павінна было прыпомніць „павадыром“ зьездаўскія абяцанкі—калі назаўтра (7-га ліпня), пад асабістым старшынством Сталіна, адбылося першае паседжаньне конституцыйнае камісіі, на якім зроблены падзел рэфэратаў і створана дванаццаць падкамісіяў—арганізацыя, якая таксама не пазваляе варажыць „ударнага тэмпу далейшых працаў“.

Далей п. Отмар пералічвае прэзэсаў гэтых падкамісіяў, з чаго чытачу ясным робіцца, хто цяпер у саветах складае кіраўнічую вяршынку.

. . . прэзэсоўства падкамісіі агульных конституцыйных праблемаў, а таксама рэдакцыйнае — (зложанае з прэзэсаў усіх іншых падкамісіяў) — абняў сам Сталін; на чале гаспадарчае падкамісіі бачым прэм'ера СССР Молатава, фінансавай—віцэпрэм'ера Чубара, юрыдычнай—галоўнага рэдактара „Известий“ Бухарына. Падкамісія дзеля апрацаваньня новага выбарнага закону паверана Радэку, падкамісія судовых органаў — галоўнаму пракурору СССР Вышынскаму, адміністрацыйная падкамісія—сэкрэтару Ц.В.К С.С.С.Р Акулаву, які абняў гэтае цяперашняе становішча па „беспартыйным“ ад нядаўнага часу Авэлю Енукідзе. Падкамісію асьветы абняў ленінградзкі вяльможа Жданаў, працы — Кагановіч, абароны — генэралісімус Варашылаў і заграннічных справаў—камісар Літвінаў...

Згодна з пастановаю зьезду, камісія павінна падаць свой проект (новае конституцыі — Рэд.) „чарговай сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту СССР“, — але ня сказана... каторай.

Як далёка пайдзе рэформа ў дакляраваным кірунку „дэмакратызацыі“—сягоньня трудна прадбачыць. Адно толькі можна адкінуць ілюзіі, каб яна прычынілася да нейкае больш радыкальнае зьмены паліцэйскае сыстэмы, непадзельна тут пануючай.

А ад гэтага „духа“ залежыць *выкананьне* нават найбольш гуманітарных і лібэральна зрэдагованых законаў. Так, як справы стаяць сягоньня—увядзеньне дакляраванага тайнага галасаваньня можа на практыцы проста азначаць дадатковае расшырэньне компэтэнцыі камісарыяту ўнутраных справаў (раней ГПУ—Рэд.), функцыянэры якога будуць мець за задачу . . . выкрыць магчымых сьмельчакоў, якія адважыліся-б галасаваць „проці“ ў... тайным галасаваньні.

— Урэшце я асабіста, — піша п. Отмар, — зусім не дапушчаю магчымасьці паўстаньня гэтак далёка бязмэтнай у тутэйшых варунках „цывільнай адвагі“,—апрача таго галасы савецкае прэсы за люты с. г. пазбаўляюць усякіх ілюзіяў аб магчымым аслабленьні дыктатарскае сыстэмы ўлады. Гэтая сыстэма (у спэцыфічных расейскіх варунках) аказалася хіба што зусім правільнай, і зусім ня дзіўным будзе, калі рэвізія конституцыі ў практыцы значна не адаб'ецца.

Але да процістаўляньня тутэйшае „свабоды“ нават найболей „фашыстоўскім“ парадкам на Захадзе ёсьць (дый будзе) яшчэ вельмі далёка. Як мне здаецца, хоць-бы ў „фашыстаўскай“ Польшчы (новая конституцыя якой апошнім часам зьяўляецца прадметам проста бяспрыкладных атакаў савецкае прэсы)—грамадзяніну ня дрыжаць ад страху лыткі пры сустрэчы з чужаземцам, а прабываючыя ў Варшаве чужынцы не патрабуюць раптам „пачынаць размову пра пагоду“, як толькі за суседні столік у кавярні сядае „беспамылкова“ выглядаючы краёвец з настаўленымі вушамі — сымболем „рэвалюцыйнае чуткасьці“...

Сьвята „равідаванай“ конституцыі ўладзілі сёлета „весела“... адбыўся карнавальны паход у парку культуры і адпачынку. 6 ліпня сказалі публічныя прамовы: віцэпрэм'ер Чубар, намесьнік сэкрэтара ЦИК'у СССР Уншліхт, а таксама камісар справядлівасьці Крыленка.

Галоўны націск у прамовах камісары клалі, — як сьведчыць п. Отмар, — на тое, што бальшавікі ўвесь час трымаюцца мірнае палітыкі. Але Чубар ня ўстрымаўся ад проціняммецкіх ды проціяпонскіх выпадаў, зусім ня выступаючы аднак проці Польшчы...

Нядаўна п. Отмар пісаў аб шуканьні бальшавікамі для сваіх масаў новых ашуканчых клічаў. Ці ня будзе чарговым іх клічам „дэмакратызацыя савецкай конституцыі“?

памоцніка загадчыка магазыну № 25 „Белпродторгу“. Арыштованы і абвінавачаны ў гэтым забойстве загадчык гэтага магазыну Баброў і бугальтэр віцебскай канторы „Белпродторгу“ Грыгор'еў.

## Кароткія навіны.

— Дзень 14 ліпеня, калі ў Францыі адбываліся маніфэстацыі, прайшоў у Парыжу зусім спакойна. Да аніякіх сутычак між левымі і правымі маніфэстантамі нідзе не дайшло.

— У Кітаі гэтымі днямі здарылася вялікая паводка, нарабіўшая шмат шкоды: утапілася каля 12 тысячаў людзей; зьнесена вадой сотні тысячаў дамоў; вада заліла абшар каля трыцацёх тысячаў гэктараў.

— У некаторых краёх, як Злучаныя Штаты ў Амэрыцы, Кітай Туркестан, Англія, Францыя, ізноў стаіць вялікая гарачыня, якая даходзіць да 46 градусаў у цэню. Трапляюцца там сонечныя ўдары, ад якіх людзі паміраюць.

## Справа павароту Габсбургаў у Аўстрыю

Перад эўрапэйскай вайной дынастыя Габсбургаў панавала ў б. Аўстра-Вэнгерскай імпэрыі. Але пасьля прайгранай вайны Аўстра-Вэнгерская імпэрыя распалася, уся маемасьць Габсбургаў была сканфіскавана і самі яны мусілі выехаць з Аўстрыі, якая сталася рэспублікай. Аднак з часам як у Аўстрыі, так і ў Вэнгрыі усе больш узрастаюць монархічныя настроі, тым больш, што за апошнія гады на палітыку, як Аўстрыі, так і Вэнгрыі, пачынае уплываць Італія, якая, баючыся злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай, імкнецца стварыць Аўстра-Вэнгерскую імпэрыю, зразумела, не такую вялікую, як яна была перад вайной.

Вось-жа ў пачатку ліпеня сёлетняга году сьпярша ўрад, а потым і сойм Аўстрыі пастанавілі скасаваць існаваўшую дагэтуль пастанову аб канфіскаце маемасьці Габсбургаў і аб забароне ім жыць у межах дзяржавы, зварочваючы ім сканфіскованую маемасьць і дазваляючы ім вярнуцца ў край.

Такая пастанова выклікала недавольства суседніх з Аўстрыяй дзяржаў, у першую чаргу Чэхаславаччыны, якая некалі цалком уваходзіла ў склад б. Аўстра-Вэнгерскай імпэрыі, потым Югаславіі ды Румыніі. Проціў павароту Габсбургаў выступае і Нямеччына, бо-ж адбудова манархіі ў Аўстрыі зьявіцца галоўнай перашкодай у злучэньні Аўстрыі з Нямеччынай.

**Бажэнаў.**

# Шустрая бабулька.

### Камэдыя ў I акце.

Пераклад з расейскага *В. Г.*

(Гл. № 16 „Роднага Краю“).

Глаша. (чытае). „Мілая мая жонка, Аўдоцьця Цярэньцьеўна“...

Ключ. Што, што? Хто гэта піша?... Ці часам, ня ваш татка?

Глаша. Пачакайце, пачакайце (Глядзіць на подпіс). Не, бабулька, гэта ад дзеда?

Ключ. Ад якога дзеда?

Глаша. Ад вашага мужа, з Амэрыкі.

Ключ. Ня можа быць... Ты звар'яцела.

Глаша. Прачытайце самі...

Ключ. Чытай, хутчэй чытай!

Глаша. „Сьпяшаюся цябе пацешыць, даражэнькая, што зараз прыдзе канец, нашай разлукі з табою, і, праз якіх-небудзь два тыдні, я буду заўсёды з табою“...

Ключ. Што гэта?... Што гэта?... Ну, дай Божа. Людзі добрыя... Гэта-ж ад майго нябожчыка.

Глаша. Ах, як я задаволена, што ён жыве. Я памятую, як ён мяне кахаў,... пясьціў, карміў цукеркамі.

Ключ. Я не магу паверыць. Людцы мае! Што-ж гэта будзе? Якую я кашу заварыла з тваім таткам. Які грэх. Нячысты мяне скусіў: трохі ня вышла другі раз замуж, а муж яшчэ жывы.

ЗЬЯВА XI.

Тыя самыя і Глоў з кошыкам.

Глоў. Вось, панечка, і падарунак на вясельле.

Ключ. А, Бог з вамі, Пётр Авер'янавіч, ідзеце проч са сваім падарункам. Людцы мае! Што-ж я буду рабіць?

Глоў. Што, панечка?... Ня чую... нічога не разумею...

Ключ. Ах, выходзьце калі ласка! У мяне ёсьць муж, апрача вас.

Глоў. Вось табе і на! Ды за каго-ж вы выходзіце? Ці не за цябе, Саша?

Ключ. Мне цяпер прынясьлі пісьмо ад майго Сьцяпана Іванавіча.

Глоў. Як?... ад нябожчыка?

Ключ. Фу, які-ж вы. Хіба нябожчыкі пішуць пісьмы.

Глоў. Нехта заместа яго напісаў... Вы мне самі казалі, што ён з волі Божае памёр, што і вы на мшу давалі.

Ключ. Ажыў мой галубок, ажыў і праз два тыдні прыедзе сюды.

Глоў. Няўжо? Дык, знача, мне цяпер жаніцца з вамі немагчыма. Дзякуй Богу!

Ключк. Ах, калі праз 12 гадоў муж вернецца, дык ня ведаеш што рабіць—радавацца, ці не! Ён, мой залаты, быццам з мора выплыў.

Глоў. Але, гэта, можна сказаць, нешта марское.

Ключ. Галубкі мае. Калі ласка, не прагаварыцеся майму мужу, што я надумалася .. Дапраўды сама ня ведаю, як гэта здарылася... Грэх нейкі... нячысты ўводзіў у пакусу.

Глоў. Я скусіў? Што вы гэта?—Наадварот, вы мяне скусілі і грыбамі і канфітурамі, і наліўкамі — гэта вы вінаваты.

Ключ. Але, даражэнькі, хто пра старое ўспамяне, таму вока вон. А ты глядзіь, Глаша, да прыезду не насі гэтае сукенкі.

Глаша. Як? Зноў... Не, не, выбачце, я цяпер ўжо паненка,—вы самі ўчора казалі.

Ключ. Глупства. Што было, тое сплыло.

Ал. Пятр. Аўдоця Цярэньцьеўна, салаўя байкамі ня кормяць, а Глаша цяпер у такіх гадох, зусім дарослая паненка і можа ўжо выйсьці замуж... Я пэўны, што дзеду будзе прыемней бачыць яе замужам, зусім шчасьлівай.

Ключк. Як, і вы згаджаецеся, заступацца за яе.

Глоў. Але, панечка, сын мой кажа праўду.

Ключк. І вы таксама трымаеце за іх. Што гэта за вольнадумства? Што вы, згаварыліся, ці што, усе трое супроць мяне аднэй, слабой беднай, старэнькай... не, не, нават і ня думайце пра гэта.

Ал. Пятр. У такім выпадку, мы ўсё раскажам вашаму дзеду, як толькі ён зьявіцца.

Ключк. Што, што, вы асароміце мяне з першага разу перад маім памёршым... цьфу, ня дай Божа, перад маім мужам. Зьлітуйцеся нада мною, беднай удавою.

Ал. Пятр. Ну, дык згадзецеся на наша вясельле.

Ключк. Ну, нічога ня зробіш. Дзе-ж мне йсьці супроць трох. Ну, дзеці мае мілыя, няхай вас Бог любіць, будзьце шчаслівы.

Глаша. (Глову) Мілы татачка...

Глоў. Віншую, віншую вас. А вось вам і падарунак на вясельле. Але-ж дзе тое пісьмо памёршага? Вы мне не далі яго прачытаць.

Ал. Пятр. Вось яно, татка.

Глоў. Што-ж гэта? Дык гэта-ж пісаў ты.

Ал. Пятр. Ціха, маўчэце, інакш усё нам папсуеце. Гэта я знарок прыдумаў, каб змусіць яе згадзіцца на наша вясельле.

Глоў. Дык муж яе, можа, і запраўды памёр? Ах, Божа мой! Дык яна зноў гатова прычапіцца да мяне.

Ал. Пятр. Не, не, дайце нам толькі жаніцца, а пасьля ёй ужо ня можна будзе выйсьці за вас замуж.

Глоў. Праўда, праўда. Ах, вы! Абманулі вы шуструю бабульку, добра згулялі камэдыю.

Ключ. Што там такое? Аб чым вы шэпчаце?

Глоў. Нічога, нічога, так. Сёньня будуць іх заручыны.

Ключк. Але, але, сёньня, сёньня.

Глаша. Ах, бабулька, як гэта добра. Як мы ўсе будзем шчасьлівы.

Канец.

# З выдавецкае нівы.

*„Iskry Skaryny“* № 5. Biełaruskaje (Kryvickaje) Kulturnaje T va im. Fr. Skaryny. Praha—1935.Travień.

Запраўды незалежніцкая і народніцкая часопісь беларусаў, эміграваўшых у Чэхаславакію. Бадзёрая вучоная моладзь, ня гледзячы на сваю біблейскую, быць можа, матар'яльную беднасьць, адбівае сваю часопісь на памнажальніку лацінікай з рукапісаў, перапісаных на пісальнай машынцы.

Зьмест „Іскраў Скарыны“ сільны вытрыманасьцю і апрацаванасьцю кожнага артыкулу.

Перадавым артыкулам *„Адвечны шлях—гэта ёсьць шлях Скарыны!“* рэдакцыя абгаварвае трагэдыю хістаньня беларускай інтэлігенцыі паміж Захадам ды Усходам у мінуўшчыне і ў канцы горача заклікае:

— „Браты беларусы! Стварайце сваё роднае, блізкае, арганічнае; стварайце сваю ўласную беларускую нацыянальную форму рэлігійнага культу!“

Т. Глеба ў артыкуле *„Што такое нацыянал - дэмакратызм?“* робіць глыбачэзны аналіз сучаснай трагэдыі нашага народу, галоўны акт якое раз'ігрываюць бальшавікі ў межах свае окупацыі пад шыльдам БССР — гэтае псэўда-беларускае рэспублікі,створанай дыктатураю чырвонае Масквы, пасьля яе перамогі над беларускай дэмакратыяй.

Бальшавікі залічваюць у нацыянал-дэмакраты кожнага больш-менш актыўнага, сьвядомага беларускага інтэлігента, які мае адвагу ў „беларускай рэспубліцы“ гаварыць і думаць аб самастойнасьці Беларусі, а нават проста аб аўтаномнасьці яе ў межах СССР.

Гэткі вывад напрошваецца сам сабою, па прачытаньні грунтоўна дасьледаваных аўтарам усіх бальшавіцкіх палітычных штучак і манэўраў.

Як ведама, бальшавікі ня толькі *залічаюць* беларускіх сьвядомых інтэлігентаў у нацыянал-дэмакраты, а *ліквідуюць* іх часта-густа фізычна, у лепшым выпадку разганяючы па дзікіх акраінах Савецкага Саюзу, ссылаючы ў Салоўкі і ў іншыя концэнтрацыйныя лягеры дзеля катаржных работ.

Каб апраўдаць перад зьняволенымі беларускімі сялянамі свае зьверствы, бальшавікі загадваюць гэткім, да апошняй ступені спадлелым, „гісторыкам“ сваім, як Кірушын, Корчык, Зайцаў, Гарын, Жаброўскі, пісаць *агіткі* па гісторыі нацыянал-дэмакратычнага беларускага руху, ня брыдзячыся ніякае маны і фальшы. Гэтым „гісторыкам“ навуковымі аргумэнтамі служаць нават *„паказаньні арыштованых нацдэмаў на допыце іх у ГПУ“*.

А ў лапах гэтае пякельнае інстытуцыі губляе ўсякі сорам нават Браніслаў Тарашкевіч, змушаны паўтараць усю хлусьню бальшавіцкіх пісакаў; прыкладам, у іншым артыкуле („У Савецкай Беларусі“ Н-ка) перадрукованы яго адказ на пушчаную тутэйшымі газэтамі чутку аб яго расстрэле. Пісьмо яго, з іронічным загалоўкам „Мяне расстралялі“, зьмешчана было спачатку ў польскай камуністычнай часопісі „Trybuna“, а пасьля было перадрукована ў менскай газэце „Зьвязда“ (№ 66 за 22. III. 1935).

У пісьме гэтым Тарашкевіч заяўляе:

„У Савецкім Саюзе я знайшоў ня сьмерць, а вялікую бацькаўшчыну, якая блізка для мяне і дорага цалкам — ад Камчаткі да польскай граніцы. Не аслабела ў сувязі з гэтым мая любоў да роднай Беларусі, якую я не проціstaўляю ўсёй краіне Саветаў, але якую лічу за непадзельную частку вялікага СССР“...

Т. Глеба дакумэнтальна раскрывае фальш і ману савецкіх пісакаў пра нацыянал-дэмакратызм і нараз стаўляе пытаньне, чаму ня дзейнічае (хай сабе нават і савецкая) юстыцыя, чаму адкрыта ня судзяць „нацдэмаў“, а распраўляюцца з імі адміністрацыйным способам? Ня судзяць, бо ня маюць за што судзіць.

У артыкуле *На Усходзе"* Базыль Карусь разглядае далёка-ўсходнюю маскоўскую палітыку, даказваючы колёнізатарскі і окупацыйны характар бальшавіцкае палітыкі ў БССР і *„Западной области"*.

*„Перабудова“*—артыкул Я. Явара тлумачыць тэорыю новага ладу ў Італіі і Нямеччыне, лічачы гэты лад часовым і пераходным да дэмакратычнай эвалюцыі.

Ёсьць і крыха „мастацкае“ літэратуры ў „Іскрах Скарыны“. Зьвяртае на сябе ўвагу глыбокадумны верш П. Белічанкі „Табе малюся я“. А пачатак аповесьці С. Сітніка „Міхалішын Сьцяпан“ гэтак проста і натуральна зарысоўвае наш вясковы быт і перажываньні закаханага хлапца, што ў чытача паўстае перад вачыма зусім жывы абраз нашага народнага жыцьця. Стыль аповесьці і мова, як рэдка ў каго з беларускіх літэратараў, наша родная, чыстая, кожнаму зразумелая.

В. Захарка артыкулам „На шляху беларускіх старадаўнасьцяў“ парушае справу розных беларускіх дакумэнтаў: актаў, грамат і лістоў, што „знаходзяцца ў розных бібліятэках ды архівах Маскоўшчыны, Украіны, Польшчы і нават Нямеччыны. З ліку агромністых складаў разматых дакумэнтаў в. к. Беларуска-Літоўскага, да гэтага часу выдана ў Пецербургу, Кіеве і Вільні толькі пяцьдзесят тамоў“,— сьцьвярджае аўтор.

Д-р Тамаш Грыб навукова даказвае беларускасьць гэрбу „Пагоня“, зьмяшчаючы ў „Іскрах Скарыны“ свой *„прычынак* да высьвятленьня беларускае гэральдыкі“.

Інфармацыі аб беларускім жыцьці пад Польшчай выглядаюць крыху аднабока—ў чыста-хадэцкім асьвятленьні. З прыгожага эміграцкага „далёка“ *багатым* і *рознастайным* здаецца нашым братом-пражанам часопісь „Калосьсе“, а Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры выглядае „адзінаю і ўзапраўды дзейнаю беларускаю культурна-навуковаю установаю ў Заходняй Беларусі“.

Праўда, што беларуская гімназія ёсьць філіяй польскае дзяржаўнае гімназіі імя Славацкага ў Вільні, але таксама праўда, што Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ёсьць „філіяй“ беларускае хадэцыі ў гэтай жа самай Вільні. Гэта, дык нават з Прагі можна добра бачыць.

Зьмест „Іскраў Скарыны“ бязумоўна багаты; як навукова, так сама літэратурна ды галоўнае ідэолёгічна ён куды вышэйшы за ўсялякае „Калосьсе“.

Вельмі ўжо выкрутасная часамі ў некаторых навукоўцаў мова, барбарыстычны стыль, які робіць ўражаньне, быццам піша чалавек дык пабеларуску, а думае хіба неяк іначай ды перакладае ня вельмі ўдала свае думкі.

Але трудна ізноў вымагаць ідэальнай чысьціні мовы ад маладое эміграцыі, змушанай лёсам жыць сярод чужое нацыянальнае стыхіі.

*К. М.*

---

Праўда, што ў царкву і да споведзі ня ходзяць прыхільнікі Ружыцкага ды Гапановіча, катория стараліся перацягнуць у вунію і іншых прыхаджан, чаму перашкодзіў якраз бацюшка Яськоў.

Ніякай дэлегацыі да Уладыкі нашы прыхаджане не выбралі і не пасылалі, і таму „нейкая дэлегацыя“ не зьяўлялася нашым прадстаўнікам, а магла прадстаўляць толькі невялікую кучку прыхільнікаў вуніятаў.

У заканчэньне заяўляю, што не адзін я стаю ў абароне нашага бацюшкі Яськова, а ўвесь прыход, які выслаў да Уладыкі пратэст прошіў хлусьні на бацюшку Яськова са звыш 500 падпісамі.“

(—) *Язэп Місюль*
Царкоўны стараста

15 ліпня 1935 г.

# Пільная справа.

Абядненьне нашай вёскі ідзе хуткімі крокамі наперад. Шмат пісалася аб гэтым і ў беларускай і ў польскай прэсе, прыводзіліся розныя прычыны.

Аднэй з прычын па майму пераконаньню, зьяўляецца тое, што абшары Заходняй Беларусі пазбаўлены сваіх шляхаў замежнай камунікацыі. Так Віленшчына пазбаўлена Лібава-Ромен. дарогі і порту Лібавы, Горадзеншчына і Наваградчына маюць замкнены Літоўскаю грніцаю Нёман, Палесьсе ня мае па Прыпяці сплаву свайго багацьця ў сьцяпныя абшары. Заходняя Беларусь ня мае збыту сваей прадукцыі, бо далёкі порт Гдыня для нас за дарагі. Прыватны капітал неахвотна ідзе на вёску, бо мала працентуецца. Вось чаму цэны на нашыя земляробскія прадукты такія нізкія, і нашаму селяніну жывецца так цяжка.

Усе палёгкі, якія ўрад прадставіў земляробам, нашай вёскі не закранулі. Прыватных даўгоў вёска амаль, што ня мае, а падаткі плаціць досыць акуратна. Гэныя палёгкі дапамаглі толькі обшарнікам большай і меншай уласнасьці. Наш селянін плаціць падаткі з апошняга, часта не даядаючы. Газа, мыла становяцца ўжо люксусам, бо абясцэньваньне прадукцыі нашага земляроба ідзе прагрэсыўна. Каб хоць трохі падняць дабрабыт нашага краю, трэба падняць цану на прадукцыю земляроба, а гэта магчыма толькі пры пэўным і арганізаваным збыце гэтай прадукцыі.

Мы маем некалькі зямлеробскіх арганізацыяў, як Towarzystwo Rolnicze, якое зьлілося z Zarządem Kółek Rolniczych, Kółka Rolnicze і об'еднываючую гэныя арганізацыі „Izbę Rolnicza“.

Дзякуючы чыста палітычным варункам ўсе гэныя арганізацыі маюць выключна польскі характар, і наш селянін ім не давярае і неахвотна ўваходзіць у іх.

І таму такая паважная арганізацыя, як Izba Rolnicza, памагчы селяніну ня можа, бо ня можа мець дачыненьня з паасобным прадуцэнтам; другая рэч была-бы, каб гэныя прадуцэнты былі заргаnізаваныя.

Па маей думцы насьпеў час стварэньня беларускай арганізацыі, мэтай якой было-бы арганізаваньне збыту і падняцьце земляробскай культуры.

Прадукт нашага селяніна пападае выключна ў рукі мяйсцовага гандляра; цана на гэны прадукт залежыць ад чыста мяйсцовых варункаў: падалі на рынак зашмат прадуктаў — цана нізкая, падалі мала — цана падымаецца Няма такога дзейніка, які-б рэгуляваў цану. Вось, каб была такая беларуская арганізацыя, якая-б закупала тавар, то такіх хістаньняў цэнаў ня было-бы і можна было бы ня толькі падняць цэны, але й павысіць якасьць прадукцыі, бо можна было-бы закупляць тавар на экспорт і за лепшы тавар плаціць вышэйшую цану.

Вось заданьнем такой арганізацыі было-б і рэгуляваньне прадукцыі, асабліва тых тавараў, якія селянін прадукуе выключна на прадажу.

Вось-жа я і зварочваюся да сьвядомай часткі нашага грамадзянства з прапазыкай заняцца гэнай справай, мне здаецца, павінны зацікавіцца і нашыя ўлады і нашыя самаўрады, бо-ж пры сумленнай працы такой арганізацыі дабрабыт вёскі бязумоўна падымецца, а гэтым самым падымецца й плацежная здольнасьць нашага селяніна. Але такая арганізацыя мусіць быць беларускай, бо толькі тады яна можа мець належны давер з боку нашага селяніна. Адпаведныя для гэтага людзі заўсёды знойдуцца, якія ідэёва возьмуцца за працу, каб памагчы нашай вёсцы.

*Б.*

---

**Прысылайце падпіску на газэту „РОДНЫ КРАЙ“.**

---



Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.